## СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ

Паэт і перакладчык Сяргей Дарожны (сапр.: Серада Сяргей Міхайлавіч) нарадзіўся 25 лютага 1909 г. у горадзе Слоніме Гродзенскай губерні ў сям'і афіцэра царскай арміі.

У пачатку 1915 г. сям'я эвакуіравалася ў Варонеж. Тады ж Сяргей застаўся без бацькі, мабілізаванага ў царскую армію. Недзе паміж 1919 і 1920 г. маці з Сяргеем і дочкамі Марыяй, Надзеяй і Верай вярнуліся дадому, але неўзабаве (прычынай, відаць, была пасляваенная разруха, голад і холад) Сяргея аддалі ў дзіцячы дом.

«Сярод хлопчыкаў і дзяўчынак, якія рана страцілі бацькоў, ён вылучаўся неймавернай прыхільнасцю і цікавасцю да кнігі і тым, што ўжо ўмеў на мове маці складаць вершы»[*], — пісаў сябар Сяргея С.Шушкевіч.

У траўні 1924 г. С.Дарожны заканчвае ў Мазырскім дзіцячым доме сямігодку і ўвосень паступае ў Мінскі Белпедтэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага.

Вучань С.Дарожны, па ўспамінах Паўла Пруднікава[†], выглядаў так: «Прыгожы, чарнабровы, чорнавалосы высокі юнак. Заўсёды акуратна апрануты <…> касцюм добра адпрасаваны. Ніколі нікуды не спяшаўся і заўсёды ўсюды паспяваў».

Пра незвычайны склад выкладчыкаў і вучняў педтэхнікума ўжо гаварылася ў артыкуле пра Антона Адамовіча, таму паўтараць сказанае наўрад ці ёсць патрэба.

У 1926 г. С.Дарожны стаў сябрам Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк». Тады ж, у 17 гадоў (у сааўтарстве з братам Змітрака Бядулі — Ізраілем Плаўнікам[1]), адным з першых сярод аднакурснікаў выдаў зборнік вершаў «Звон вясны»[‡]. Паэта заўважыў Кузьма Чорны.

Пра гэты перыяд жыцця С.Дарожнага М.Лужанін у кнізе «Трое»[§] пісаў: «Моладзь ведала Дарожнага, вершы яго, не завучваючы, помнілі назубок. Здаралася, выступаючы перад аўдыторыяй, ён паспяваў толькі пачаць:

*Зіма, зіма — і снегу па калені…*

Слухачы дружна падхоплівалі:

---

[*] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968.
[†] Гл.: старонкі ................. ....................................................
[‡] Дарожны С. Звон вясны. Мн., 1926.
[§] Лужанін М. Трое. Мн., 1989.

*Ні сцежак, ні дарог няма,*
*Цярусяцца і падаюць сняжынкі памаленьку,*
*Зіма.”*

У тыя гады паэт многа выступаў на вечарынах, удзельнічаў у выданні сумесных зборнікаў. Так, улетку 1927 г. “Маладняк” паведамляў:

*“Восем маладых паэтаў: Паўлюк Трус, Валерый Маракоў, Віктар Казлоўскі, Сяргей Дарожны, Максім Лужанін, Пятро Глебка, Тодар Кляшторны і Янка Бобрык[2] пачалі працаваць над вялікай агульнай паэмай з сучаснага грамадскага і культурнага жыцця. Гэта паэма спачатку будзе надрукавана ў “Полымі”* (у “Полымі” не друкавалася. — **Л.М.**)*, а потым асобнай кніжкай”.*

Station Станіслаў Шушкевіч у кнізе «Вяртанне ў маладосць»[**] расказаў пра адно з такіх выступленняў Сяргея: «Чорныя густыя бровы Дарожнага, здалося, узнялі свае крылы над пераноссем, карыя вочы бліснулі радасным агеньчыкам. Паэт чытае новы верш:

*І ў ранак, пад шэпат сасонак,*
*Як заўсёды, у звычай стары –*
*Пераклікнуцца пеўні спрасонак*
*Па-зямляцку пагаварыць.*

З 1928 г. С.Дарожны — сябра літаратурна-мастацкага аб'яднання «Узвышша». У пачатку гэтага самага года выходзіць і першы нумар часопіса «Росквіт», арганізаваны Паўлюком Шукайлам[3]. У раздзеле часопіса «Літаратурнае сёння» ён пісаў: «Паэты пяшчотных струн, ледзяных гітар, пярыннага блажэнства і літаратурнай пустазвоніцы — гэтую групу складаюць: Паўлюк Трус, Язэп Пушча, Сяргей Дарожны, Валеры Маракоў і інш»[††].

У адказ С.Дарожны прыдумаў на «літаратурнага камунаўца» эпіграму:

*Выйду я*
*на сенажаць,*
*Ды*
*з нагану*

[**] Шушкевіч С. Вяртанне ў маладосць. Мн., 1968.
[††] Росквіт. 1927. № 1; 1928. № 2.

*ў жабу*

*бац!*

Як успамінаў Сяргей Грахоўскі[4], ледзь не да суда дацягнуў яго Шукайла «за абразу яго асобы». Не забыў пра Шукайлу і В.Маракоў: «Дзівіўся чорт, Нібы Шукайла з гора, Яму па гэтых сцежках не прайсці…”[‡‡]

У 1930 г. С.Дарожны скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (на нейкім этапе вучобы быў выключаны «за сокрытие социального происхождения» свайго бацькі, які ў той час жыў у Польшчы, аб чым паведаміла газета «Звязда», але потым змог аднавіцца). Пасля заканчэння БДУ працаваў у розных перыядычных выданнях. У 1933-м С.Дарожны (разам з Сяргеем Ракітай[5]) перайшоў на радыё, дзе аднойчы паэту і было зачытана наступнае:

*«Загад №114 па Усебеларускаму Камітэту радыё ад 1.VIII.1933 г.*

*За сістэматычнае працягванне ў сваіх літаратурных перадачах нацдэмаўскіх установак да мікрафону, нарачытае змазванне ролі партыі ў барацьбе з контррэв. нацдэм., паклёп на палітыку партыі на вёсцы, што знайшло месца ў вершы да чысткі партыі — літработніка літаратурна-драматычнага сектару С.Дарожнага з работы зняць.*

*Касцюк, Рыўкін”*[§§].

Нягледзячы на «воўчы білет» з радыёкамітэта, С.Дарожнага ў 1934 г. усё ж прымаюць у СП Беларусі. Але ненадоўга: у 1935 г. па прапанове А.Александровіча яго выключаюць.

29 жніўня 1936 г. стыльрэдактара часопіса «Работніца і калгасніца Беларусі» С.Дарожнага арыштавалі і пасадзілі ў мінскую ўнутраную турму НКВД “амерыканку”.

Тут трэба зазначыць, што яшчэ ў пачатку 1930 г. С.Дарожнаму было даручана перакласці на беларускую мову апавяданне (12 старонак) нейкага Г.Сушкіна, схаванага пад крыптанімамі Г.С., напісанае па ўспамінах былога вязня яшчэ царскіх часоў адэскага астрога. Пазней гэты «твор» з'явіўся ў друку асобнай кніжкай. Там апісваліся жудасныя ўмовы існавання ў царскай турме, у прыватнасці былі і такія «страшэнныя» радкі: «*У адэскі астрог я папаў у снежні 1903-га… Адмовіўшыся ад якіх бы то ні было размоў з жандармамі, я прасядзеў у астрозе да сярэдзіны мая 1904… Рэжым у*

---

[‡‡] Маракоў В. Рабінавая ноч. Мн., 2003. С. 171.
[§§] З асабовай справы Сяргея Серады (Дарожнага), якая захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

*гэтым астрозе быў даволі цвёрды… Мне і тав. Ракітнікаву, які сядзеў у адным калідоры са мной, удалося ўладзіць справу з атрыманнем кніг з гарадскоe публічнае бібліятэкі, якія мяняў нам наглядник астрогу. Гэта давала нам магчымасць не спыняць у астрозе літаратурных работ… Пасля вячэрняй паверкі я браўся за кнігі і сядзеў за імі ўсю ноч, часамі да раніцы…»*

Для параўнання «жудаснай царскай турмы» ў Адэсе 1904 г. з унутранай турмой НКВД у Мінску эпохі «самай гуманістычнай і справядлівай у свеце ўлады», а менавіта 1937 г., прывядзём урывак з заявы былога следчага НКВД Быхоўскага[6]: *«Я бил и применял всякого рода издевательства… бил их* (падследных. — ***Л. М.***) *руками… ногами… ложил их на пол, сгибал вдвое и ставил сверху стул, садился на него и сидел до тех пор, пока эти лица не начинали давать показания…* (Так ён «гутарыў», напрыклад, з М.Чаротам, А.Дударом і У.Галубком. — ***Л. М.***) *Раздевали арестованных догола и били их нагайками и поясами…* (У гэтай справе найлепшым спецыялістам быў «куратар» Маракова, Кляшторнага і некаторых іншых — Кунцэвіч. — ***Л. М.***) *Истязали до полусмерти…»****

У сваім вершы «Менская турма» (1957) Уладзімір Клішэвіч пісаў:

*Жыццё турмы адведаў кожны:*
*Там быў Знаёмы і Дарожны…*

Быў там і сам У.Клішэвіч…

Падчас вобыску ў С.Дарожнага былі канфіскаваны творы тады ўжо забароненых Я.Лёсіка, М.Гарэцкага, У.Ігнатоўскага, А.Некрашэвіча[7] і шмат кніг на нямецкай мове.

Пасля такога «ўлову» першы допыт паэта працягваўся трое сутак (т.зв. «канвеер»).

*“Следствию известно, что на квартире Остапенко* (паэта Змітрака Астапенкі. — ***Л. М.***) *собирались (у 1932 г. — **Л.М.**) писатели, в том числе и вы — Дорожный-Середа, для слушания по радио заграничных передач белогвардейцев-эмигрантов…*

*Следствие вам напоминает, что еще зимой 1933 г. в беседе с вашим односельчанином С. вы говорили:*

*“Коллективизация погубит деревню. Это издевательство над крестьянином, колхозный строй все равно не победит…”*

---

*** Маракоў Л. Валеры Маракоў. Лёс, хроніка, кантэкст. Мн., 1999. С. 135.

*В 1934 году… вы высказывали… что жители вашей деревни не такие дураки, чтобы идти в колхоз…*

*В беседах с писателем К. вы неоднократно заявляли, что трудности при советской власти были, есть и будут…*

*Вы намеревались совершить террористический акт над тов. Гикало…*"†††

Восеню 1937 г. С.Дарожны быў асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі па абвінавачанні «ў падрыхтоўцы ўзброенага замаху» на першага сакратара ЦК КП(б)Б М.Гікалу[8].

У зняволенні лёс звёў С.Дарожнага з В.Хомчанкам[9], які пазней успамінаў: *«Асабістае знаёмства з С.Дарожным у мяне адбылося ў Камсамольску-на-Амуры ў канцы 40-га года… Аднойчы ў маладых рабочых я спытаў, ці ёсць тут хто з беларусаў. Мне паказалі на… хлопца, назвалі яго прозвішча — Серада. Я павітаўся з ім, не падазраючы, што гэта і ёсць С.Дарожны… З таго дня і па красавік 1941 года, я амаль кожны дзень сустракаўся з Дарожным… Калі мы развіталіся, Сяргей даў мне дзесятак новых вершаў, папрасіў перадаць іх яго сябрам, што жылі ў Мінску* (бліжэйшых сяброў С.Дарожнага З.Астапенкі і Ю.Таўбіна ў Мінску ўжо не было: першы знаходзіўся ў такім жа канцлагеры, толькі ў Сібіры, другога ў адзін дзень з Т.Кляшторным і Я.Нёманскім і інш.[10] расстралялі 30 кастрычніка 1937 г. — ***Л. М***.). *Але просьбу яго я не выканаў. У Мінск мне дабрацца не давялося… пачалася вайна… і пісьмы былі згублены…»*

Улетку 1943 г. С.Дарожны загінуў у зняволенні, не дажыўшы да вызвалення два гады.

У 1957 г. паэт па хадайніцтве сястры быў рэабілітаваны і адноўлены ў СП Беларусі.

На просьбу Саюза пісьменнікаў БССР ад 11 мая 1989 г. «дазволіць азнаёміцца з матэрыяламі архіва КДБ БССР, якія датычацца незаконна рэпрэсіраваных у 30-я гады і цяпер рэабілітаваных беларускіх паэтаў С.Астрэйкі[11], У.Хадыкі, З.Астапенкі, С.Дарожнага, Ю.Лявоннага[12] і В.Маракова, з мэтай выяўлення і публікацый іх твораў» (подпіс першага сакратара праўлення СП БССР Н.Гілевіча[13]) атрыманы з КДБ БССР адказ ад 31 ліпеня таго ж года: «Рукапісаў і друкаваных выданняў, у тым ліку і згаданых паэтаў, у архіўных справах не маецца» (подпіс намесніка старшыні КДБ Э.Шыркоўскага[14]).

Пры жыцці паэта выйшлі тры кнігі:

††† З асабовай справы Сяргея Серады (Дарожнага), якая захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

«Звон вясны», Мн., 1926 (разам з І.Плаўнікам);
«Васільковы россып», Мн., 1929;
«Пракосы на памяць», Мн., 1932.

---

[1] **ПЛАЎНІК Ізраіль Яфімавіч** [канец 1890-х г. — пачатак 1900-х г. (?), мяст. Пасадзец Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер вёска Лагойскага р-на Мінскай вобл. — ?], паэт, брат пісьменніка Змітрака Бядулі (Самуіла Плаўніка). З сям'і лясного прыказчыка. У пачатковую школу пайшоў у восем гадоў. У 1919 пераехаў у Мінск, жыў у брата. М.Гарэцкі пра П. пісаў: "На яго форме адчуваецца ўплыў вершаў Бядулі, часткаю Купалы і Багдановіча". Па некаторых звестках, у другой палове 1930-х г. звар'яцеў.

[2] **БОБРЫК Янка** [Іван Іванавіч; 8(21).7.1905, мяст. Глуск Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер райцэнтр Магілёўскай вобл. — 25.8.1942, Ленінград], паэт, кінакрытык, муж Наталлі Вішнеўскай, стрыечны брат Сяргея Грахоўскага. З сям'і каваля. У 1929 скончыў БДУ. Працаваў настаўнікам у Мілаславіцкай сямігодцы ў Клімавіцкім раёне. З 1931 — аспірант Ленінградскай дзяржаўнай акадэміі мастацтвазнаўства. Пасля заканчэння працаваў на студыі Белдзяржкіно (у Ленінградзе). З 1938 член ВКП(б), галоўны рэдактар Упраўлення па справах мастацтва Ленінградскага гарвыканкама. Загінуў ад голаду ў час ленінградскай блакады.

[3] **ШУКАЙЛА Паўлюк** [Павел Захаравіч; псеўданім: Паўлюк Заходні; крыптанім: П.З-ні; 1904, в. Лапенеўцы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 14.4.1939, Мінск, НКВД], паэт, крытык, празаік, кіназнаўца. З беднай сялянскай сям'і. У першай палове 1920-х г. удзельнічаў у падпольным рэвалюцыйным руху ў Зах. Беларусі; прыкладна ў 1923 стаў членам КПЗБ. У канцы 1924 або пачатку 1925 перайшоў польска-савецкую мяжу. Далучыўся да дзейнасці літаб'яднання "Маладняк". У 1925 выехаў у Слуцк, дзе арганізаваў філію "Маладняка", быў рэдактарам акруговай газеты, спрыяў выпуску літаратурнага альманаха. Неўзабаве перабраўся ў Расоны, працаваў сакратаром райкама партыі, удзельнічаў у рабоце Полацкай філіі "Маладняка". Адначасова з'яўляўся старшынёй камісіі па праверцы ходу беларусізацыі ў раёне. У 1926 прыехаў у Мінск, паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. Стаў ініцыятарам стварэння новага літаб'яднання "Беларуская літаратурна-мастацкая камуна". У крытычных артыкулах быў досыць непрымірымы да сваіх літаратурных апанентаў. У 1928 адкамандзіраваны на вучобу ў Камуністычную акадэмію ў Маскве. У 1930 скончыў пры ёй Інстытут

чырвонай прафесуры. У 1930—31 працаваў загадчыкам кафедры метадалогіі мастацтва ў Інстытуце кінематаграфіі. Да 1931 кіраўнік Беларускай секцыі Маскоўскай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. Быў рэдактарам газ. "Кино" (Масква), дырэктарам Цэнтральнага тэхнікума тэатральнага мастацтва. Арыштаваны АДПУ СССР у верас. 1930 па справе "Саюза вызвалення Беларусі". Яму ўдалося адвесці ад сябе абвінавачанні, справа была спынена. З 1932 у Ленінградзе, віцэ-прэзідэнт Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Прафесар (1933). З 1936 зноў у Маскве. Паўторна арыштаваны 1.11.1938. Вінаватым сябе не прызнаў. Асуджаны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 13.4.1939 за «ўдзел у контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі» да ВМП. Расстраляны ў Маскве на «Камунарцы» ў наступную пасля прысуду ноч. Рэабілітаваны 14.4.1959.

Гл. таксама ст.: ....................................

4 **ГРАХОЎСКІ Сяргей Іванавіч** [12(24).9.1913, мяст. Нобель Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Зарэчанскі р-н Ровенскай вобл., Украіна — 11.12.2002, Мінск], паэт, празаік, перакладчык. У 1914 разам з бацькамі пераехаў у Глуск на Магілёўшчыне. Першы верш апублікаваны ў 1926. У 1930 г. скончыў Глускую (Магілёўская вобласць) сямігодку. Працаваў на дрэваапрацоўчым камбінаце ў Бабруйску. Адначасова вучыўся на рабфаку. У 1931—32 працаваў карэктарам у Дзяржвыдавецтве БССР, у газ. «Чырвоная змена». З 1932 студэнт газетна-выдавецкага аддзялення літаратурнага ф-та МВПІ. За распаўсюджанне "контррэвалюцыйных вершаў» выключаны з інстытута, але пазней аднавіўся. У 1935 скончыў МВПІ. Працаваў на Беларускім радыё, выкладчыкам літаратуры на рабфаку пры БДУ. Арыштаваны 20.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Цнянская, д. 28а, кв. 1. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 2.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Верагодна, некаторы час знаходзіўся ва Унжэнскім канцлагеры НКВД Горкаўскай вобл. (ст. Сухабязводная). Вызвалены 19.10.1946. У 1946—49 настаўнічаў у Слуцкім р-не. У 1947 з Г. знята судзімасць, але 19.5.1949 яго зноў арыштавалі і выслалі ў Новасібірскую вобл. У 1956 вярнуўся ў Мінск. У 1957—73 працаваў у час. «Бярозка», «Вясёлка»; літкансультантам СП БССР. У 1973—74 адказны сакратар Камітэта па дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Член СП Беларусі з 1956. У 1958 выйшаў у свет першы зборнік вершаў «Дзень нараджэння». Інсцэніроўкі аповесці «Рудабельская рэспубліка» пастаўлены тэатрамі імя Я.Купалы і Гомельскім абласным драматычным у 1968; у 1972 створаны аднайменны кінафільм. Перакладаў на бел. мову творы А.Блока, Р.Тагора і інш. Аўтар успамінаў пра перыяд рэпрэсій (аўтабіяграфічная трылогія «Такія сінія снягі», 1988; «Зона маўчання», 1990; «З воўчым білетам», 1991). З 1974 на пенсіі. Аўтар больш чым пяцідзесяці зборнікаў вершаў і прозы, успамінаў пра рэпрэсаваных бел. пісьменнікаў: В.Казлоўскага, Л.Калюгу В.Маракова, У.Сядуру, Ю.Таўбіна,

П.Шукайлу і інш. («Так і было»). Рэабілітаваны па першай справе прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 19.10.1955, па другой — 21.10.1955. Асабовая справа Г. № 9934-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[5] **РАКІТА Сяргей** [сапр.: Законнікаў Сяргей Васілевіч; іншы псеўданім: С.Асот; крыптанім: Р.С.; 15.10.1909, в. Ліцвінава Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Дубровенскі р-н Віцебскай вобл. — 23.3.1942, ст. Сухабязводная Горкаўскай вобл., ГУЛАГ], паэт. У 1925 скончыў сярэднюю школу. Быў камсамольскім актывістам; з 1927 член Аршанскага акруговага камітэта ЛКСМБ. У 1928 ягоныя першыя вершы з’явіліся ў «Аршанскім маладняку»; тады ж стаў выступаць з нарысамі (газ. «Савецкая Беларусь»). У 1929 накіраваны на працу ў гомельскую абл. газ. «Палеская праўда». З 1930 адказны сакратар Гомельскай філіі БелАПП. Выдаў у Гомелі 2 кніжкі паэзіі. У студзені 1931 разам з В.Мараковым, Р.Мурашкам, С.Шушкевічам і іншымі ўдзельнічаў у дэкадзе беларускай культуры ў Маскве. У 1932—33 служыў у арміі. Працаваў у Мінску ў рэдакцыях газет, на радыё, у Дзяржвыдавецтве БССР. Адначасова вучыўся ў Мінскім камуністычным інстытуце журналістыкі. У кастр. 1935 выключаны з камсамола і зняты з працы ў БелТА за «идеализацию троцкизма». З 1936 працаваў літрэдактарам у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Арыштаваны 20.10.1936 у Мінску па адрасе: вул. Гарбарная, д. 33, кв. 8. На допытах 20.10, 23.10, 20.12, 22.12.1936 і 11.8.1937, якія праводзілі следчыя Шураў (1897 г. н., арыштаваны ў 1939), Юргенсон і Васільеў, С.Законнікаў-Ракіта быў абвінавачваны ў тым, што казаў наступнае: *«Беда наших белорусов заключается в том, что мы «азиаты» — ориентируемся на отсталый восток, а не на запад… что колхоз — колония государства… Рассказывал анекдоты, направленные на компроментацию руководителей партии и Советской власти… рассказывал, что белоруссизация с каждым годом идет на убыль, что вследствие различных нападок на белорусских писателей последние вынуждены оставить писать, а если кто и пишет, то не то, что бы сам хотел… Высмеивал проводимые Советской властью мероприятия и компрометировал отдельных активных писателей, как А.Александровича и Янку Купалу и др. за их литературный труд в последние годы. Занимался высказываниями, направленными на идеализацию нацдема…»*

Пасля заканчэння следства (13.8.1937) асуджаны тройкай НКВД 5.10.1937 як «член контррэвалюцыйнай нацыянал-фашысцкай арганізацыі» і за «антысавецкую дзейнасць» да 10 гадоў ППК. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29.12.1954. Асабовая справа Р. № 9935-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[6] **БЫХОЎСКІ Віктар Эмануілавіч,** лейтэнант дзяржбяспекі, начальнік аддзялення па справах нацыянал-фашыстаў 4 СПА (1936—1937); катаваў на допытах падследных; дакладна вядома пра выпадкі з А.Баліцкім, А.Дзякавым, Б.Тарашкевічам, Р.Хацкевічам і інш.; калі тыя трацілі

прытомнасць, утыкаў ім ў шыю іголкі; дапытваў Анатоля Вольнага, Сяргея Гесэна, Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага, Яна Скрыгана, Уладзіміра Хадыку, Міхася Чарота і інш.; ад даследчыкаў гісторыі беларускай літаратуры атрымаў мянушку "садыст"; арыштаваны 10.12.1938, асуджаны 20.4.1939 да 10 гадоў ППК.

З ліста следчага В.Ермалаева сакратару ЦК КП(б)Б П.Панамарэнку:

*"Быхоўскі — садыст, маральна разбэшчаны, фанабэрысты, ганарлівы, падхалім, кар'ерыст, распусны нізкі чалавек, які інтымна жыў з многімі невядомымі жанчынамі, у тым ліку з машыністкай 4-га аддзелу..."*

З заявы Я.Скрыгана Генеральнаму пракурору СССР (дат. 8.4.1954):

*«Следователь Быховский (1937) с первого же допроса начал требовать... лжи, клеветы, извращения фактов... и откровенно заявил, что правды он и не требует. Со злобой он выкрикнул: «Ишь, сволочь, Иисус Христос нашелся, правда ему нужна! Нам нужна правда, которой от тебя требуют! ...Если ты советский человек, то должен подписать всё, что требует от тебя следствие. Это нужно в интересах государства. ...После такой усердной работы Быховского вся, как моя, так и чужая жизнь превращалась в сплошной жуткий комок грязи и преступлений».*

З "обзорной справки" па архіўна-следчай справе № 8825 па абвінавачванні В.Быхоўскага па арт. 180 "а" КК БССР:

*"Стенографистка Жуковская показала, что... многие следователи, являясь инструкторами по бою, ходили по кабинетам и избивали несознавшихся арестованных... Когда арестованные теряли сознание после избиения,* [Быховский] *колол их иголкой в шею... А.Балицкому дал прессом в лицо... арестованного* [литератора] *З. ставил ногами вверх к окну и избивал..."*

З заявы В.Быхоўскага на імя наркама УС БССР А.Наседкіна ад 27.11.1938 г. (трэба звярнуць увагу, што заява напісана за некалькі тыдняў да арышту таго, каму яна была адрасавана, і арышту самога заяўніка):

*"Я хочу Вам рассказать о тех безобразиях, антипартийных, по существу фашистских методах следствия, которые здесь, в Белоруссии, процветали на протяжении последних лет 1937—1938 гг. в бытность здесь наркомом Бермана и до вашего приезда сюда...*

*Берман и нач. следственного отдела Волчек стали на официальных совещаниях работников существовавшего здесь следственного отдела давать установки совершенно открыто, что, если враг не сдается, надо на него воздействовать физически и сломить его...*

*И я в числе других стал это делать. Я стал применять при допросах к арестованным самые разнообразные методы издевательств...*

*Я видел, что в окружении меня поголовно все — от мала до велика, все бьют... били и оперативные работники и не оперативные...*

*Особенно много натворили беззаконий и безобразий, избивали арестованных, истязали их, сотрудники НКВД БССР — Авербух, Вихорев, Волков, Завадский, Кауфман, Кунцевич, Лукашонок, Массарский,*

*Перевозчиков, Перский, Половинскин, Серышев, Слукин, Сотиков, Цейтлин, Шейнкман, Широков истязали нагайками и поясами, заставляли арестованных избивать друг друга, раздевали арестованных догола и били их поясами до полусмерти. Это делали следователи: Барсуков, Бурмистров, Годин, Климкович, Козлюк, Короткевич, Крупенков, Кузнецов, Паремский, Сергеев, Фиш, Черняк".*

Быхоўскі, расказаў новаму кіраўніку МУС, што чынілася да яго прыходу ў камерах унутранай турмы НКВД, спадзяваўся, што выратуе сабе жыццё. І не памыліўся. Замест шмат разоў заслужанага расстрэлу атрымаў 10 гадоў пазбаўлення волі.

[7] **НЕКРАШЭВІЧ Аляксандр** [1890-я г. (?) — 1937], тэатральны дзеяч, дырэктар БДТ-1. Рэпрэсаваны ў 1937 (?).

[8] **ГІКАЛА Мікалай Фёдаравіч** [8(20).3.1897 (паводле іншых звестак, 1896), Адэса, цяпер Украіна — 25.4.1938, Масква, «Камунарка», НКВД], партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1915 скончыў Тыфліскую ваенна-фельчарскую школу. У 1917 уступіў у РСДРП. Удзельнічаў ва ўсталяванні савецкай улады на Паўн. Каўказе; у 1918 старшыня Савета г. Грозны. У далейшым член Каўказскага краявога камітэта РКП(б), ваенны камісар Церскай вобл. і Дагестана. У 1920-х г. працаваў у Сярэдняй Азіі. У 1929 скончыў Камуністычную акадэмію ў Маскве. Прызначаўся сакратаром ЦК КП(б) Узбекістана і Азербайджана. У 1930—34 член Цэнтральнай Рэвізійнай камісіі ВКП(б). З 1931 сакратар Маскоўскага абкама і гаркама ВКП(б). У студз. 1932 накіраваны ў Беларусь на пасаду 1-га сакратара ЦК КП(б)Б. Член Бюро ЦК КП(б)Б, Прэзідыума ЦВК БССР, Рэўваенсавета БВА. Кандыдат у члены ЦК ВКП(б) з 1934. Член ЦВК СССР. Працуючы ў Беларусі, шмат увагі надаваў развіццю гаспадаркі і культурнаму будаўніцтву, у 1932 аб’явіў БССР рэспублікай усеагульнай пісьменнасці. Многія пытанні вырашаў адміністрацыйна-каманднымі метадамі, спрыяў прымусовай калектывізацыі, удзельнічаў у разгортванні масавых рэпрэсій у БССР. Старшынёй камісіі па чыстцы ва ўстановах культуры, адукацыі і навукі была яго жонка Чыжова — дырэктар Інстытута журналістыкі. У лют. 1937 Г. пераведзены ва Украіну на пасаду 1-га сакратара Харкаўскага гаркама КП(б)У. Член палітбюро ЦК КП(б)У. Сам стаў ахвяраю карнай палітыкі. Арыштаваны 11.10.1937 у Маскве па адрасе: Стараканюшанны зав., д. 19/17, кв. 4. Асуджаны пазасудовым органам НКВД 25.4.1938 як «англійскі шпіён» да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 10.8.1955. Асабовая справа Г. № 3626 захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Мінску.

[9] **ХОМЧАНКА Васіль Фёдаравіч** [12.1.1919, в. Канічы Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 4.11.1992, Мінск], празаік. Пісаў на бел. і рускай мовах. У 1935 скончыў сямігодку ў

мяст. Бялынкавічы Касцюковіцкага р-на. Першы верш надрукаваў у 1934 у газ. «Піянер Беларусі»; першае апавяданне з’явілася ў 1937 у час. «Іскры Ільіча». У 1936 паступіў на рабфак пры БДУ.

З заявы ў НКВД студэнта рабфака БДУ Лапаціна В.І. (стыль і арфаграфія архіўных дакументаў захоўваюцца):

*Заявление.*

*Прошу НКВД просмотреть политическую неблагонадежность студентов Рабфака БГУ 10-й группы 4 курса Хомченко В.Ф. и Сидоренко А.И. Они оба начинающие писатели. Сидоренко — брат крупного нацдема под псевдонимом «Пеночкин»* (Сідарэнка Афанасій. Высланы з Беларусі ў 1932 як «нацдэм». — ***Л. М***.) *и в настоящее время сослан. Этот Сидоренко Алексей сам что-то пишет и дал писательскую зарядку студенту Хомченко, который пишет следующее: «Отцы работают где-то в колхозе и за тяжелый труд получают лишь 300—400 грамов хлеба в день, чтобы прокормить город… Город живет за счет вымирания деревни… Сталинская эпоха ужасно жуткая…*

*…Хомченко … и Сидоренко … всегда о чем то говорят в комнате… до 2—3 ночи. Мое убеждение, что такие настроения у Хомченко появились под влиянием Сидоренко. Этот дневник хранится в чемодане Хомченко. Живут они по Немига, 21, в комнате № 9 Сидоренко и в комнате № 22 Хомченко.*

*Лопатин.*

Са справы № 9717 на грамадзяніна Хомчанку В.Ф.

*“Постановление.*

*1937 года апреля 4 дня г. Минск — БССР.*

*Я, начальник 4 отдела УГБ НКВД БССР Губская, рассмотрев сего числа поступившее заявление от студента 4 курса Рабфака БГУ Лопатина Василия Ивановича, нашла, что студент Рабфака БГУ г.Минска Хомченко Василий Федорович ведет дневник с контрреволюционными записями, а посему постановила:*

*У Хомченко В.Ф., 1919 года рождения, студента 4 курса БГУ произвести тщательный обыск на предмет изъятия у него дневника с контрреволюционными записями и в зависимости от результатов обыска Хомченко В.Ф. подвергнуть аресту и привлечь к следствию в качестве обвиняемого.*

*Начальник 4 отдела УГБ — Губская.*

*Согласен:*

*Пом. Нач. 4 отдела УГБ НКВД — Волчек”* (на нарадах работнікаў следчага аддзела даваў устаноўкі: «Если враг не сдается, надо воздействовать физически и сломить его…»; расстраляны ў 1939 г. — ***Л. М***.).

*Утверждаю: Нарком Внутренних дел БССР, комиссар Госбезопасности Берман* (асабіста збіваў на допытах падследных. У 1939 г. расстраляны. — Л.М.).

4.4.1937 г. студэнт 4-га курса рабфака БДУ В.Хомчанка быў арыштаваны.

Пратакол асабістага вобыску:

*«… изъято денег — 40 копеек».*

Пратакол вобыску:

*«паспорт, 2 фото, дневник, тетрадей писаных 10 штук, зап. книжек 2 шт».*

З дзённіка В.Хомчанкі (запіс ад 18 лютага 1937):

*«Эх, почему я не родился до Октября, я бы писал все чувства, переживания, жил бы, как жили герои романов: скитался, радовался, стремился. Кто же теперь посчитает это умным, достойным человека, который вышел из кабальной, нищенской среды? Кто поймет, склонит голову над тобой. Все скажут — «Дурак». А знают ли они нутро, душу переживаний, разочарований этого человека? Нет, не знают. Кто думает о тебе, кто сочувствует тебе, если ты идешь голодный в старом порванном пальто, брезентовых ботинках? Все говорят и думают, что это человек не нашей эпохи, эпохи Сталина, «счастливой». А какой же я эпохи? Именно я этой эпохи, когда живут мои родители, скитаются, вытягиваются на работах, чтобы заработать себе кусок хлеба, чтобы прокормить себя (и за один трудодень получить 400 грамов хлеба) и прокормить весь этот пышный, задорный, противный для меня город. Да, скитаться и вытягиваться. Поля стали урожай давать вдвое меньше…*

*Сегодня голодал целый день, только вечером попил у Сидоренко чаю. Появился насморк, холодно, простудился. А денег нет и до стипендии еще далеко — полмесяца. Как завтра быть? Из дому помощи нет. И все это происходит в Сталинскую эпоху, под Сталинским солнцем…»* (З асабовай справы Васіля Хомчанкі ў КДБ Беларусі).

3.6.1937 г. адбылася вочная стаўка паміж Лапаціным і Хомчанкам, на якой Лапацін пацвердзіў свае паказанні, а Хомчанка — свае.

Восенню 1937 В.Хомчанка за вышэйзгаданыя запісы быў асуджаны да 4 гадоў ППК. Этапаваны ў Ніжне-Амурскі канцлагер: будаваў чыгунку, пілаваў лес. Выпадкова вызвалены ў 1941. У вайну на фронце. Вучыўся ў Буйнакскім ваенна-пяхотным вучылішчы (1944); быў камандзірам мінамётнага ўзвода. Вайну скончыў у Аўстрыі. Каб паступіць у Ваенна-юрыдычную акадэмію ў Маскве, утаіў судзімасць. Вучыўся ў акадэміі ў 1947—51. Да літаратурнай творчасці вярнуўся ў 1954, калі апублікаваў ва ўладзімірскім літаратурным альманаху апавяданне «Анісаў бор». Пісаў апавяданні на рускай мове, потым зноў вярнуўся да творчасці па-беларуску. У 1959 выпусціў у Мінску кнігу «Наша вячэра». Член СП Беларусі з 1960. Служыў у арміі да снеж. 1968. Рэабілітаваны ў 1969. У 1972—85 працаваў загадчыкам рэдакцыі прозы выдавецтва «Мастацкая літаратура». З 1985 на творчай рабоце. Напісаў аповесць пра Ф.Багушэвіча. Творы Х. перакладаліся на літоўскую, рускую, украінскую, іншыя мовы. З 1990 член Рады СП Беларусі; узначальваў Камісію СП па вяртанні спадчыны рэпрэсаваных

---

пісьменнікаў. У апошнія гады жыцця пісаў апавяданні і аповесці, у якіх звярнуўся да падзей перыяду сталінскіх рэпрэсій.

[10] **НЁМАНСКІ Янка** [сапр.: Пятровіч Іван Андрэевіч; 31.3(12.4).1890; паводле іншых звестак, нарадзіўся 13.4.1890 (па новым стылі), мяст. Шчорсы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. — 30.10.1937, Мінск, НКВД], празаік, публіцыст, эканаміст, грамадскі дзеяч. У 1909 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю; у 1915—16, 1918 вучыўся на гісторыка-філалагічным ф-це Петраградскага ун-та. У 1916 мабілізаваны ў армію, накіраваны ў школу прапаршчыкаў. У 1918 загадчык выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята. У 1918—19 разам з Ц.Гартным выдаваў газ. «Дзянніца». Там з 1918 пачаў друкаваць публіцыстычныя творы. У 1919—21 у Чырвонай Арміі. З 1922 у Мінску; працаваў у планава-эканамічных органах. Нам. старшыні Дзяржплана БССР. Член Інбелкульта. Акадэмік БелАН з 1928. У 1929—31 неадменны сакратар БелАН. З 1931 загадчык аддзела эканомікі НДІ прамысловасці. У 1933—36 узначальваў кафедру фінансавых дысцыплін у Беларускім дзяржаўным інстытуце народнай гаспадаркі. З першым апавяданнем «Над Кроманню» выступіў у 1922 (час. «Полымя»). У 1927—32 член праўлення літаратурнага аб'яднання «Полымя». На працягу 1928—30 пісаў раман «Драпежнікі», які застаўся няскончаным (рукапіс 2-й часткі быў спалены энкавэдыстамі пасля арышту). Арыштаваны 27.4.1937 у Мінску па адрасе: вул. Горкага, д. 21/52, кв. 25.

З асабовай справы Я.Нёманскага:

*Протокол обыска.*

*Изъято:*

*4 тетради* (рукапісаў, сярод якіх, магчыма, была другая частка рамана «Драпежнікі». — ***Л. М.***) *разная переписка, блокнотов 11 штук, 10 книг под редакцией Петровича, книга «Война с белополяками», журн. «Полымя» — 25 штук, «Красная новь» — 2 шт., 2 книги под редакцией Некрашевича, 1 книга под ред. Дунца, 1 книга под ред. Гартнага и разн. книги — 7 шт., вся переписка и документы...*

*Постановление.*

*1937 г. мая, 10 дня. Я, инспектор при Наркоме Внутренних дел БССР, лейт. Гос. Без. Кац М. И. рассмотрев следственное дело № 9751 нашел:*

*Материалами следствия в достаточной степени установлено, что Петрович И. А. состоял членом национал-фашистской организации в БССР и проводил организационную, вредительскую и разрушительную к-р деятельность.*

*На основании ст. 128 УПК БССР*

*Постановил:*

*Петровича Ивана Андреевича привлечь по настоящему делу в качестве обвиняемого, предъявив ему обвинение по ст. 68, 69, 70, 72, 76 УК БССР.*

*Инспектор при Наркоме лейт. Кац".*

У працэсе следства Я.Нёманскі быў абвінавачаны ў шкодніцтве ў:

*"топливно-энергетическом хозяйстве;*

*в промышленности материалов;*

*в пищевой, швейной, стекольной, местной, финансовой промышл.;*

*в коммунальном хозяйстве…"*

Асуджаны тройкай НКВД 29.10.1937 як «член нацыянал-фашысцкай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Расстраляны. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 16.3.1957. Асабовая справа П. № 10052-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

15.11.1937 у Мінску па адрасе: вул. 11 Ліпеня, д. 18/7, кв. 2 арыштаваны навучэнец Мінскага дарожна-механічнага тэхнікума Пятровіч Андрэй Іванавіч (н. 10.7.1922 у Ноўгарадзе, Расія), сын Янкі *Нёманскага* і Глафіры *Пятровіч*. 28.11.1937 «тройкай» НКВД асуджаны як «член сям'і ворага народа» да 5 гадоў ППК. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 9.5.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа П. № 6594-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[11] **АСТРЭЙКА Сяргей Адамавіч** [25.7.1913 (па іншых звестках, 9.7.1912), в. Каласоўшчына Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 14.9.1937, Чэлябінская вобл., НКВД], паэт, перакладчык. Падчас вучобы ў Капыльскай сямігодцы пачаў пісаць вершы. У 1928 па рэкамендацыі Ц.Гартнага паступіў у МБПТ, тады ж у друку з'явіліся яго першыя творы. У пачатку 1930-х г. А. працаваў літрэдактарам выданняў Беларускага НДІ прамысловасці. З 1932 навуковы супрацоўнік Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва БАН, працаваў у Камісіі па складанні слоўнікаў. Яго паэму «Бенгалія» ўхваліў Я.Купала, які прысутнічаў на чытанні яе аўтарам ў доме пісьменніка ў 1932. А. рыхтаваў да выдання паэтычны зборнік «Смарагды кроз», які не выйшаў. 23.2.1933 арыштаваны ДПУ БССР па справе «Беларускай Народнай Грамады». Высланы ў Ірбіт Свярдлоўскай вобл. Працаваў бухгалтарам. У ссылцы зрабіў пераклад «Яўгена Анегіна» А.Пушкіна (рукапіс не захаваўся). Тэрмін ссылкі яшчэ не скончыўся, калі 14.8.1937 паэта зноў арыштавалі. 13.9.1937 асуджаны да ВМП. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956.

З успамінаў М.Кавыля:

*«Астрэйка <…> дадумаўся «перахрысціць» СВБ, напісанае на значку Саюзу Ваяўнічых Бязбожнікаў, на Саюз Вызвалення Беларусі. І канспірацыю прыдумалі: насіць значок не на штрыфелі пінжака, а пад штрыфелем. І я паддаўся гэтай гульні… А гэтая гульня не прайшла незаўважанай тымі, каму трэба ўсё заўважаць…*

*…Часта ўспамінаю ноч, калі мы бадзяліся па Камароўцы* (адно з месцаў масавых расстрэлаў бальшавікамі беларусаў у пачатку 1930-х г. — ***Л. М.***). *Гэта ж Астрэйкава была ініцыятыва. Як быццам нейкая сіла цягнула*

*яго, а ён нас, да магілы, дзе неўзабаве і яго пасадзілі на край ямы і пiхнулi на акрываўленыя трупы гарачым драбком волава... Праўда, не на Камароўцы.*

*Нас, яго прыхільнікаў, паклоннікаў яго таленту, «гарачыя драпкі волава» абмінулі таму, што мы паэмы, падобныя Астрэйкавай «Бэнгаліі»* (рукапіс не захаваўся. — ***Л. М***.), *не пісалі.*

*...Сяргей Астрэйка чытаў сваю паэму. Пісалася ў «Бэнгаліі» пра цяжкую долю бэнгальцаў пад ангельскай акупацыяй. У пору б яе выкарыстаць у антыангельскай прапагандзе, а яе падлабызнікі паэта ўзнялі на пастамент антыкамунізму, махлюючы падабенствам назоваў Бэнгалія і Беларусь, акупанты англічане — акупанты маскалі. Астрэйка не пярэчыў гэтаму і паплаціўся...»* (Казённы дом і далёкая дарога. Час. «Запісы». 1992. № 20).

У тыя ж гады ў МБПТ вучыўся і цёзка Сяргея, паэт **Анатоль Астрэйка** (1911—78).

Як ён пазней прызнаваўся: «Пісаў і пад Паўлюка Труса і пад Сяргея Ясеніна. І пра Крамлёўскія зоры. Але ж пра акупантаў не пісаў, таму, можа, і застаўся жыць...”.

[12] **ЛЯВОННЫ Юрка** [сапр.: Юркевіч Леанід Мікалаевіч; 16(29).7.1908, Чавусы Магілёўскай губ., цяпер Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт. З сям'і вясковага настаўніка. Вучыўся ў Чавускай сямігодцы, Магілёўскім педтэхнікуме, на літаратурным ф-це МВПІ. За распаўсюджванне «контррэвалюцыйных вершаў» выключаны з інстытута (пазней аднавіўся; скончыў у 1934).

*«Ён гадзінамі чытаў па памяці Маякоўскага і Кірсанава, Ціханава і Лугаўскога. У яго быў тонкі густ да слова, да формы, а пра сябе ён часта гаварыў: «сапраўднае я яшчэ напішу, значнае наперадзе...»* (Грахоўскі С. Так і было. Мн., 1986).

Друкавацца пачаў у 1924. Першыя зборнікі паэзіі «Камсамольскія вершы» і «Штурм» выйшлі ў 1930. Член СП Беларусі з 1934. Працаваў у рэдакцыях газ. «Магілёўскі селянін», «Звязда», час. «Работніца і калгасніца Беларусі». Разам з С.Грахоўскім пераклаў на бел. мову раман Ж. Верна «80 000 кіламетраў пад вадой». Некаторыя вершы Л. пакладзены на музыку. Арыштаваны 30.10.1936 (па адной справе з Ц.Гартным) у Мінску па адрасе: вул. Фурманская, д. 9, кв. 2. З падследных, якія праходзілі з імі разам толькі адзін чалавек пасля бясконцых катаванняў не пацвердзіў, што Ц.Гартны “контрреволюционер”, “нацдем” і г. д.: Юркевіч Леанід Мікалаевіч.

Асуджаны пазасудовым органам НКВД 28.10.1937 як «член шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі» да ВМП з канфіскацыяй маёмасці. Рэабілітаваны ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1957. Справа Ю. і інш. № 10242-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

5.11.1938 у Мінску па адрасе: вул. Фурмана, д. 9, кв. 2 арыштавана бухгалтар Белсольэнэрга **Гольдберг Яўгенія Абрамаўна** (н. ў 1907 у

Мелітопалі, цяпер Украіна), жонка Юркі Лявоннага. 28.11.1938 асобай нарадай НКВД асуджана як «член сям'і ворага народа» да 8 гадоў ППК. Вызвалена 5.11.1945. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана 2.6.1956 трыбуналам БВА. Асабовая справа Г. № 6656-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[13] **ГІЛЕВІЧ Ніл Сымонавіч [**н. 30.9.1931, в. Слабада Лагойскага р-на Мінскай вобл.], народны паэт Беларусі, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнавец, драматург, грамадскі дзеяч. Са шматдзетнай сялянскай сям'і. З 1938 вучыўся ў сямігадовай школе ў роднай вёсцы, пасля 1945 у школе ў суседняй в. Гайна. Пасля сканчэння сямігодкі (1947) паступіў у Мінскае педагагічнае вучылішча (скончыў у 1951). З 1951 студэнт, з 1956 аспірант БДУ. У 1963 абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1968 дацэнт, з 1978 прафесар БДУ. У 1980—89 першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. У 1990-я г. дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, актыўны ўдзельнік грамадска-палітычнага і культурнага жыцця рэспублікі.

[14] **ШЫРКОЎСКІ Эдуард Іванавіч** [н. 18.4.1932, в. Новы Свержань Стаўбцоўскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.], чэкіст, генерал-палкоўнік КДБ (1993). Скончыў Мінскі юрыдычны інстытут (1954), школу КДБ СМ СССР (1959). Працаваў следчым пракуратуры, сакратаром райкама камсамола Камсамольска-на-Амуры. З 1957 у органах КДБ. У 1959—85 супрацоўнік аддзелаў КДБ пры СМ СССР па Свярдлоўскай вобл., Уральскай ВА, начальнік аддзела 2-га Галоўнага ўпраўлення КДБ пры СМ СССР. З 1985 начальнік УКДБ БССР па Віцебскай вобл. З 1988 1-ы нам. старшыні, у 1990—94 старшыня КДБ Беларусі.

Кр.: *ЭГБ*, т. 6—2.